www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 4 (4256)**

12 студзеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

# Не падзеляць Дзень Волі?

У беларускай апазіцыі абмаляваўся новы скандал. Мікола Статкевіч з групай паплечнікаў пад сцягам Беларускага нацыянальнага кангрэса пачаў падрыхтоўку да масавага святкавання 25 сакавіка ў Мінску стагоддзя абвяшчэння БНР. І хаця на першае пасяджэнне адпаведнага аргкамітэта, якое мусіць адбыцца днямі, запрашаюцца іншыя зацікаўленыя арганізацыі ды асобы, – самыя буйныя апазіцыйныя структуры (правацэнтрысты, Партыя БНФ), мяркуючы па рэакцыі іх лідараў у медыях, далучацца да ініцыятывы Статкевіча не паспяшаюцца.

У прыватнасці, крытыкі ініцыятывы нагадваюць, што летась ужо створаны і даўно працуе грамадскі аргкамітэт у справе святкавання стагоддзя БНР на чале з акадэмікам Радзімам Гарэцкім. Таксама выказваюцца засцярогі, што ў выпадку пратэстнай акцыі можа быць паўтор драматычных падзей 25 сакавіка 2017 года, калі маніфестацыя ў Мінску была здушана сілавікамі.

Не сакрэт, што Статкевіч і апазіцыйны мэйнстрым даўно не могуць знайсці агульнай мовы. Летась між БНК ды іншымі структурамі была канкурэнцыя, хто асядлае, узначаліць "дармаедскія" пратэсты. Статкевіч абвяшчаў свой марш, правацэнтрысты – свой. Гэта толькі збівала з панталыку актывістаў і тых, хто ўпершыню хацеў далучыцца да вулічных акцый: каго слухаць, за кім ісці?

Леташняя ж сталічная акцыя 25 сакавіка, якая паводле задумы мусіла стаць кульмінацыяй пратэстаў, аказалася зусім без правадыроў – іх банальна "павязалі". Між тым Статкевіч загадзя абвясціў, што бярэ адказнасць за тую акцыю на сябе.

Цяпер яго апаненты, згадваючы леташні аблом, кажуць: Мікола зноў цягне коўдру на сябе, спекулюе на святой даце, хоча яе прыватызаваць, змяшаць жанры святкавання і пратэсту. У сваю чаргу Статкевіч, былы палітвязень №1 і заслужаны вулічны баец, кпіць з тых, хто, маўляў, хоча ў такі сімвалічны дзень абмежавацца пакаёвымі мерапрыемствамі, выпіўкай. Лідар БНК і яго аднадумцы ўважаюць за годны варыянт святкавання юбілею шэсце ў сталіцы ад плошчы Якуба Коласа да плошчы Незалежнасці з наведваннем месцаў, звязаных з гісторыяй БНР.

"Дзень Волі павінен прадэманстраваць моц і еднасць беларускага народа", – зазначыў Статкевіч з гэтай нагоды ў "Фэйсбуку". Але можа здарыцца так, што гэта дата не з'яднае нават беларускую апазіцыю.

Свая праўда ў Статкевіча: ён упарта імкнецца пашыраць абсяг свабоды, кідаць выклік уладзе, што жорстка абмяжоўвае канстытуцыйнае права беларусаў на мірныя сходы.

Але свая праўда і ў тых, хто кажа, што не варта мяшаць боб з гарохам, святкаванне з пратэстам. Што акцыя не мусіць быць дзеля паказу, хто самы круты лідар. Што не трэба раз-пораз падстаўляць людзей пад дручкі, штрафы, арышты проста дзеля прынцыпу. І што малалюдныя акцыі толькі дыскрэдытуюць саму ідэю вулічнага пратэсту.

Зрэшты, рызыкну спрагназаваць, што гэтым разам улады не наважацца на такую дэманстрацыю грубай сілы, як гэта было 25 сакавіка летась. Тады яны былі надта напалоханы размахам "дармаедскіх" пратэстаў, але цяпер дэкрэт №3 фактычна не дзейнічае і грамадска-палітычная сітуацыя нашмат спакайнейшая. Звыш таго, Мінск закулісна паабяцаў Захаду, што болей такіх зрываў у рэпрэсіі, непрапарцыянальнага ўжывання паліцэйскай сілы не будзе.

Але ж і аддаваць апазіцыі галоўны праспект наверсе наўрад ці захочуць. Таму могуць прапанаваць ініцыятарам меркаванага шэсця (якія ўсё ж збіраюцца падаць заяўку ў гарвыканкам) плошчу Бангалор. Інач кажучы, тую "сабачую пляцоўку", куды Статкевіч прынцыпова не ходзіць.

І што тады – зноў несанкцыянаваная акцыя? Але ці шмат народу на яе выйдзе, памятаючы леташні разгон? Ды яшчэ і крытыкі Статкевіча з іншых апазіцыйных структур, пэўна ж, будуць дэ-факта дыскрэдытаваць яго задуму.

Варта ўзяць пад увагу і той момант, што ўлада спрабуе ладзіць нейкую, хай сабе і кволую, беларусізацыю. Паказальна, што Аляксандр Лукашэнка ў віншаванні ўдзельнікам канферэнцыі "Падзеі 1917 года ў гістарычных лёсах Беларусі", што праходзіла ў снежні ў БДУ, падкрэсліў: найважнейшай падзеяй тых гадоў быў Першы Усебеларускі з'езд. Між тым рада з'езду акурат і спрычынілася трохі пазней да стварэння БНР.

Такім чынам, і наверсе пакрысе пераасэнсоўваюць айчынную гісторыю, асцярожна прасоўваюцца ў бок тых трактовак, за якія раней бэсцілі "нацыяналістычную апазіцыю". Магчыма, на глебе юбілею БНР улада і яе апаненты маглі б знайсці пэўныя пункты судакранання. Але сварка ў самой апазіцыі дае козыры прыхільнікам жорсткай кансерватыўнай лініі: маўляў, ну з кім там можна дамаўляцца? Сцэнар жа, прапанаваны Статкевічам і яго прыхільнікамі, наверсе могуць успрыняць як наўмысна канфрантацыйны.

Сам ён заяўляе, што "ў беларускай апазіцыі няма іншага механізма ціску на ўлады, акрамя масавых вулічных акцый". Аднак ці варта абіраць дзеля спробы такога ціску менавіта стагоддзе БНР – святочны, урачысты дзень?

Ды і ўвогуле, каб ціск быў эфектыўны, патрэбна багата складнікаў, акрамя змагарнага пафасу. І ці не найперш – згуртаванасць апанентаў рэжыму, жалезны супольны план. А тут мы бачым, што апазіцыянеры вось-вось перасварацца, не падзяліўшы юбілейны Дзень Волі.

БЕЛСТАТ ПАВЕДАМЛЯЕ..

## У Беларусі інфляцыя ўпала да рэкордна нізкага ўзроўню – 4,6% за год

Цэны на тавары і платныя паслугі ў 2017 годзе выраслі на 4,6% (звесткі за снежань мінулага года да аналагічнага перыяду 2016-га).

Больш за ўсё ў мінулым годзе падаражэлі платныя паслугі – на 9,5% (у снежні – на 0,5%). Харчовыя тавары сталі за 2017 год даражэй на 4,2% (у снежні – на 0,7%), а нехарчовыя – на 2%. Пры гэтым на нехарчовыя тавары ў снежні і ўвогуле зафіксавалі дэфляцыю, цэны ўпалі на 0,9%.

Гэта рэкордна нізкі ўзровень інфляцыі для Беларусі. За 2016 год цэны на тавары і платныя паслугі ў Беларусі выраслі на 10,6%, а ў 2015 годзе – на 12%.

АФІЦЫЙНА

Уладзімір МАКЕЙ,
міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь:

## Крокі па спрашчэнні візавага рэжыму

Паводле слоў міністра, які ўчора браў удзел у прэзідэнцкай нарадзе, ужо сёлета могуць быць прыняты новыя крокі па лібералізацыі візавага рэжыму.

– Тая лінія на лібералізацыю візавага рэжыму, якая ў свой час была ўхвалена кіраўніком дзяржавы ў мэтах развіцця нашага турыстычнага, дзелавога патэнцыялу, з'яўляецца правільнай. Было прынята рашэнне і далей рухацца акуратна ў гэтым кірунку, ствараць больш палегчаныя ўмовы для паездак замежных грамадзян у Беларусь.

Цяпер замежнікі з 80 краін могуць прылятаць у Мінск на пяць дзён без віз. А турысты, якія едуць у некаторыя раёны Брэсцкай і Гродзенскай абласцей, могуць заставацца ў Беларусі 10 дзён без візы.

Таксама кіраўнік МЗС разлічвае, што ў гэтым годзе Беларусь і Расія змогуць дамовіцца аб узаемным прызнанні візы.

– У бліжэйшы час тыя прапановы, якія мы атрымалі ад нашых расійскіх партнёраў, будуць прааналізаваны, дапрацаваны, і мы дамо калегам, на наш погляд, добры салідны дакумент, які паслужыць асновай для далейшай работы па спрашчэнні візавага рэжыму ў цэлым, – заявіў Уладзімір Макей.

А вось наконт дамовы з ЕС аб лібералізацыі візавага рэжыму тэрміны пакуль не агучваюцца.

– Гэтыя пагадненні практычна знаходзяцца ў завяршальнай стадыі, але застаецца яшчэ некалькі палажэнняў, якія нам неабходна дадаткова абмеркаваць з нашымі еўрапейскімі партнёрамі.

Толькі пасля падпісання пагадненняў аб спрашчэнні візавага рэжыму і аб рэадмісіі беларусы змогуць разлічваць на патаненне шэнгенскай візы – 35 еўра замест 60.

Тым часам, паведаміў Макей, краіна вядзе перамовы з Кітаем аб спрашчэнні візавага рэжыму і «з шэрагам краін» – аб увядзенні бязвізавага рэжыму.

ПАРАЎНАЕМ!

## Кошт паліва ў Расіі і Беларусі

Канцэрн "Белнафтахім" плануе падняць рознічную цану на паліва на беларускіх АЗС да ўзроўню расійскіх цэн, паведамілі ў прэс-службе ведамства. А намеснік старшыні канцэрна **Андрэй Рыбакоў** увогуле заўважыў, што толькі для таго, каб кампенсаваць рост кошту нафты, трэба падняць цэны на аўтазапраўках Беларусі на 23%.

**Колькі сёння каштуе паліва на расійскіх і беларускіх АЗС?**

| Марка паліва | Беларусь (у бел.рублях) | Расія (у бел.рублях) |
|---|---|---|
| АІ-92 | 1,19 | 1,24–1,45 |
| АІ-95-К5 | 1,27 | 1,32–1,56 |
| ДТ-К5 | 1,29 | 1,20–1,45 |
| Газ | 0,69 | 0,60–0,68 |

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СУД

## Колькі дадуць за патрон?

*Сёння будзе вынесены прысуд быламу фігуранту "справы патрыётаў" Андрэю Бяляўскаму.*

Учора суд Ленінскага раёна Мінска пачаў разгляд крымінальнай справы супраць мінскага мастака-дызайнера **Андрэя Бяляўскага.**

Былы фігурант "справы патрыётаў" абвінавачваецца ў захоўванні аднаго патрона (ч.2 арт.295 Крымінальнага кодэкса). Гэты артыкул прадугледжвае пазбаўленне волі да 7 гадоў.

На судзе Андрэй Бяляўскі цалкам прызнаў сваю віну ў захоўванні патрона ад аўтамата Калашнікава і патлумачыў, што знайшоў яго ў машыне, якую купіў яшчэ ў 2013 годзе. А забраў яго сабе ў якасці сувеніра.

Пракурор папрасіў прызначыць Бяляўскаму пакаранне ў выглядзе абмежавання волі тэрмінам на 1 год без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу ("хатняя хімія"). Суд агучыць рашэнне сёння.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

ПРОЩАЛЬНЫЕ СЛОВА

## Пусть пухом тебе будет родная белорусская земля…



Жизнь испытывала **Петра Петровича Ткачева** не один раз. И в разных местах огромнейшего Советского Союза, и за его границами. Много горячих точек Афганистана прошел он. Смерть подстерегала на каждом шагу, но вернулся на Родину живым, с наградами. На заслуженный отдых вышел в звании полковника.

Но не таков он, коренной минчанин, выходец из обычной, очень трудолюбивой рабочей семьи, чтобы сидеть без дела. Последние годы принимал активное участие в становлении ряда предпринимательских структур, а не так давно подставил плечо крупной государственной организации.

Петр Петрович Ткачев родился 11 апреля 1953 года. После окончания средней школы поступил в Минский политехнический институт. Имея высшее образование, дальнейшую жизнь связал со специальными подразделениями Министерства внутренних дел.

Казалось бы, жить еще да жить. Но… В минувший вторник остановилось его сердце. Навсегда. Возвращался на машине из служебной поездки в Гродно, спереди водитель и руководитель организации, он – на заднем сиденье. На каком-то отрезке дороги разговоры смолкли, компаньонам показалось, что Петр Петрович задремал. А когда подъехали к Минску, окликнули – не отозвался. Вот такая легкая смерть – во сне.

Но в наших душах, душах его товарищей, она отозвалась тяжелой болью. Невозможно поверить в то, что больше не будет рядом с нами Петра Петровича. Жизнерадостного, скромного, дружеского, готового прийти на помощь в любое время.

Бывай, друже! Пусть родная белорусская земля будет тебе пухом.

Мы скорбим и выражаем искренние соболезнования всем родным Петра Петровича.

**Группа товарищей.**

ПАМЯТЬ

*Владимир Мулявин…*
*Он родился 12 января. 77 лет назад.*
*26 января будет 15 лет, как он, не оправившись после страшной автомобильной аварии, умер. Память об этом легендарном музыканте, прославившем Беларусь на весь свет, жива.*



Борис КРЕПАК
*(Из воспоминаний)*

«Я пришел на эту землю, чтоб скорей ее покинуть» – эти есенинские слова подходят и к Владимиру Мулявину. Впрочем, что теперь говорить? Настоящие музыканты, как и поэты, вероятно, обречены умирать как-то не так, как обыкновенные люди. Это и больно, и… правильно, потому что музыка, поэзия, живопись существуют не только для радости, но и для того, чтобы всем иногда становилось невмоготу, чтобы душа трезвела хоть раз от бессмысленности земного пребывания и маялась, не находя себе пристанища, но все-таки ища его…

Память как демиург времени и реальности. В ней – залог сотворения человека. Владимир Мулявин сотворил себя. Для нас и тех, кто будет после. Он был свободным, вольным человеком. И пусть он сам расскажет о себе…

# Владимир МУЛЯВИН: САМ – О СЕБЕ

***

**– Часто ли вспоминаешь детство и в каких случаях?**

– Нет, не часто. Это все в прошлом. Дело в том, что детство мое было не слишком розовым. Родители рано развелись, у отца образовалась новая семья, и все воспитание троих детей – меня, старшего брата Валерия и младшей сестры Наташи – взяли на себя наша мама, Акулина Сергеевна Палычева, и жена ее старшего брата Филиппа – тетя Маня. Эта тетя была донской казачкой, и она много рассказывала о своих двенадцати братьях, которые принимали участие в гражданской войне. Но судьба так распорядилась, что половина братьев сражалась на стороне красных, половина – за белых. Конечно, маме (она была швеей) трудно было с нами, поэтому я некоторое время жил в Магнитогорске у дяди Филиппа. Там научился хорошо плавать и даже, подражая Чапаеву, переплывал Урал. Восьмилетку закончил в Свердловске. С отцом, Георгием Арсентьевичем, встречался, но не часто. Он умер в декабре 1962-го, а ровно через год ушла из жизни и мама…

**– Где и как начиналась твоя музыкальная жизнь?**

– На родине, в Свердловске, где-то с 11–12 лет. С этого времени гитара, которая постоянно находилась в нашем доме, становится моей лучшей и желанной подругой. Играл где придется – дома, на улице, в подъездах, в лесу, на берегу реки Исеть. Впрочем, пробовал играть и на других струнных инструментах. С 14 лет я уже точно знал, что буду музыкантом.

**– Кто был первым учителем в музыке?**

– С первым учителем мне просто повезло. Его звали Александр Иванович Навроцкий. Бывший политзаключенный, сидел за «диссидентство», но конкретно «за что», по какой статье мотал срок – не рассказывал. Родом из Полтавы, он окончил, кажется, Харьковский институт культуры. Оттуда попал в сталинские лагеря, а после отбытия срока остался жить в Свердловске. Прекраснейший музыкант и педагог, он занимался со мной по шесть-семь часов в сутки.

**– Как дальше сложилась твоя судьба?**

– В середине 1956-го меня приняли в Свердловское музыкальное училище – отделение народных инструментов по классу балалайки и гитары. Но вскоре за увлечение джазом, точнее «за преклонение перед западной музыкой», меня с треском отчислили из училища. Правда, благодаря Александру Ивановичу восстановили. Однако, не закончив 3-го курса, сам ушел, чтобы зарабатывать на хлеб собственным трудом. Несколько лет выступал в качестве артиста-инструменталиста в концертах при разных российских филармониях. Женился рано, в 18 лет, на эстрадной артистке Лиде Кармальской. Она была сибирячкой – родом из Барнаула. В 1961 году в Свердловске родилась дочь Марина, а вскоре – после утомительных гастролей по российским городам и весям – мы оказались в Беларуси.

**– Ты помнишь свой самый первый приезд в Минск?**

– Конечно, помню. Первое, что меня поразило на вокзале, – это слово «Мінск». Я-то думал, что в Беларуси говорят и пишут только по-русски. Второе – то, что, оставив на какое-то время свой чемодан на стоянке такси и вернувшись, увидел: чемодан на месте! Короче говоря, устроился гитаристом при Белорусской филармонии. Жили трудно: сначала в «ментовке» на вокзале, потом снимали частную квартиру на Ленинском проспекте, недалеко от филармонии, где сейчас магазин «Оптика». Первая наша государственная квартира под №22, правда, с общей кухней, тоже оказалась на этом же проспекте в доме №13, над кинотеатром «Центральный». Через подъезд жил известный скульптор Заир Исаакович Азгур, который, кстати говоря, стал крестным отцом моей дочери Марины. А я вскоре попал в армию, служил в Уручье, где и создал в роте вокальный квартет. Именно во время армейской службы судьба свела меня с музыкантами Леней Тышко, Валерой Яшкиным и Владом Мисевичем, а чуть позже с Сашей Демешко – будущими «лявонами», а затем «песнярами».

**– Насколько мне известно, эстрадная бригада «Лявоны» появилась в 1968 году как аккомпанирующий состав популярного тогда танцевального женского коллектива «Лявоніха». Ты помнишь свой тогдашний репертуар?**

– Попробую вспомнить… Но прежде хочу сказать, что до этого я еще играл в ансамбле «Орбита-67» вместе с Толей Побережным и Геной Куприяновым. Играл на камвольном комбинате, в цирке и еще где-то – надо же было кормить семью. А «Лявоны», действительно, впервые «засветились» в 1968-м в составе Владимира и Валерия Мулявиных, Демешко, Тышко, Мисевича, Яшкина и Гурдизиани. Репертуар? Очень пестрый. Это песни и романсы «Темная ночь», «Трубачи», «Ямщик, не гони лошадей», «Клен ты мой опавший», «Сирень-черемуха», «Твои глаза» (из репертуара Тома Джонса), что-то из польских «Скальдов», песни в моей обработке – «Чабарок», «Бывайце здаровы!», «Раніца», «Чаму ж мне не пець?».

**(Окончание на 3-й стр.)**

